РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 47 (7860) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 21 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

## АРГАНІЗАЦЫЯ НАРЫХТОЎКІ КАРМОЎ ПРЫЗНАНА НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧАЙ

**У РАЙВЫКАНКАМЕ**

Як паведамлялася, адбылося нечарговае пасяджэнне раённага выканаўчага камітэта. Адкрыў і вёў яго старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў. Ён прапанаваў разгледзець пытанне аб сур'ёзных недахопах у арганізацыі нарыхтоўкі кармоў, жывёлагадоўлі выяўленых старшынёй аблвыканкама Міхаілам Дражыным у час яго рабочай паездкі па раёну.

Адпаведную інфармацыю зрабіў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў. Адзначалася, што ў большасці калгасаў нездавальняюча вядзецца касьба траў і нарыхтоўка кармоў. Патрабаванні павысіць тэмпы работ, строга захоўваць тэхналогію кормавытворчасці многія кіраўнікі гаспадарак, абслугоўваючых сельскую гаспадарку арганізацый не выканалі.

У калгасе "Расія" трамбаванне сянажнай масы трактарам "К-700", які належыць ПМК-90, было спынена ў 21 гадзіну, а назаўтра ў пяць гадзін раніцы яшчэ не аднавілася. Сама гаспадарка дапусціла працяглы прастой двух энерганасычаных трактароў. Насуперак указанням, на ўваходзе ў сянажную траншэю ні саломы, ні зялёных галінак ніхто не падаслаў. Аналагічны недахоп выяўлены і ў шэрагу іншых калгасаў. Трактарныя прычэпы як след не абсталяваны і таму шмат корму губляецца.

Ёсць выпадкі, калі прыгатаванае сена своечасова не ўбіраецца, трапляе пад дождж. Такі факт быў у калгасе "Ленінскі шлях".

Калгас "Праўда" не скардзіцца на востры недахоп кармаўборачнай тэхнікі. Па словах яго кіраўніка, ён у стане самастойна справіцца з нарыхтоўкай сена і сенажу. Аднак, закладка сенажу на дзень праверкі не вялася, здрабняльныя агрэгаты прастойвалі.

Адно з апошніх месцаў у раённай зводцы займае і калгас "Бароньі". Лічаныя тоны сена тут, сянаж не закладваўся. Новую касілку чамусьці не ўключылі. ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" не паставіла жняярку на комплекс "Палессе".

У некаторых гаспадарках не ўдзяляецца дастатковай увагі догляду пасеваў кармавых культур. Караняплоды і кукуруза зарастаюць пустазеллем, але праполка і рыхленне не наладжаны.

На пасяджэнні райвыканкама ўскрыты і іншыя факты безгаспадарчасці. Яны мелі месца, у прыватнасці, у жывёлагадоўлі. Так, у калгасе "Ленінскі шлях" статак знаходзіцца ў летнім лагеры. Толькі ноччу не пасецца, а ўтрымліваецца ў загоне.

Усе патрабаванні наконт вядзення жывёлагадоўлі ігнаруюцца праўленнем калгаса "Праўда". Фермы "патанулі" ў зарасніках пустазелля, не ачышчаны ад гною. У загонах, дзе ўтрымліваюцца цяляты, брудна. Прывагі жывёлы, надоі малака нізкія.

Рэзкай крытыцы падвяргалася ветэрынарная служба раёна. Вельмі марудна вядзецца санітарная падрыхтоўка жывёлагадоўчых памяшканняў у калгасах. Тое ж можна сказаць і аб рабоце па абязрожванню маладняку. Не выпадкова ў калгасе "Парыжская камуна" правяраючым не паказалі такіх цялят. На фермах шмат хворай жывёлы. Эфектыўнасць лячэння таго ж стрыгучага лішая нізкая.

Набліжаецца ўборка збожжавых культур. Частка камбайнаў адрамантавана з дапамогай райаграпрамтэхэнерга, самімі калгасамі. Значная ж колькасць гэтых агрэгатаў, іншых машын і прылад, зернеачышчальна-сушыльных комплексаў няспраўная. Не гатовы да работы амаль усе камбайны маркі "Дон-1500" у калгасе "Праўда". Нават не ачышчаны яны ад рэшткаў расліннасці і гразі ў Бароньках пасля мінулагодняга жніва.

Далёка не ўсё робіцца па аказанню эфектыўнай шэфскай дапамогі калгасам. Рэдка хто з калектываў прадпрыемстваў, арганізацый нарыхтоўвае сена для калгаснай жывёлы. Зусім мала выдзелена падшэфным гаспадаркам грашовых сродкаў, тэхнікі, людзей. Неаператыўна вядзецца рамонт машын па дагаворах з калгасамі. Такія выпадкі ёсць у трэсце № 10, на цэментным заводзе, у райаграпрамтэхэнерга і ў іншых калектывах.

Райвыканкам заслухаў справаздачы шэрагу гаспадарнікаў. Першым даваў тлумачэнні ў сувязі з парушэннем працоўнай дысцыпліны, тэхналогіі закладкі сенажу падначаленым механізатарам, іншымі ўпушчэннямі начальнік ПМК-90 Рыгор Елісеенка. Вырашана вызваліць ад займаемай пасады кіраўніка гэтай арганізацыі.

Шмат прэтэнзій выказана дырэктару ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" Міхаілу Патапенку. Механізаваны атрад таварыства нарыхтоўвае за сезон не больш чым 5 працэнтаў кармоў у раёне. Ад яго ж чакаюць большага. Кіраўніцтвам дапускаюцца выпадкі неарганізаванасці, бескантрольнасці.

М. П. Патапенку строга ўказана. Дадзены тэрмін для ўхілення адзначаных недаробкаў.

Старшыні калгаса "Бароньі" Андрэю Піскунову аб'яўлена вымова за нездавальняючую арганізацыю корманарыхтоўкі, прыніжаную патрабавальнасць да кадраў. Прынята да ведама запэўніванне кіраўніка калгаса "Праўда" Вячаслава Арэхава ў тым, што гаспадарка ўласнымі сіламі нарыхтуе грубыя кармы ў дастатковай колькасці і выкарыстае тэхнічны патэнцыял, каб рэзка павялічыць тэмпы і аб'ёмы. Старшыні дадзены двухдзённы тэрмін, каб калгас увайшоў у даведзены графік.

Была заслухана таксама справаздача галоўнага ветурача раёна Аляксандра Судзілоўскага. Па выніках работы за першае паўгоддзе будзе ацэнена работа ветслужбы і вырашана пытанне аб мэтазгоднасці выкарыстання яе кіраўніка на ўказанай пасадзе.

Тлумачэнні ў райвыканкаме давалі старшыні калгасаў "Новае жыццё" Аляксандр Амельчанка, "Прагрэс" – Фёдар Жукаў, "Ленінскі шлях" – Мікалай Таўпека, "Парыжская камуна" – Аляксандр Міхеенка і іншыя.

Завяршаючы пасяджэнне райвыканкама, М. Р. Барысаў патрабаваў ад кіраўнікоў калгасаў забяспечыць надзейную захаванасць кармоў, якія нарыхтаваны. Тут ім павінны дапамагчы аддзел унутраных спраў, ваенізаваная пажарная часць. Пракуратура, як заявіў пракурор раёна Анатоль Малахоўскі, будзе ажыццяўляць нагляд і прыцягваць кіраўнікоў калгасаў да адказнасці за халатныя адносіны да зберажэння кармавых запасаў.

У сувязі з аб'ектыўнымі абставінамі, дажджлівым надвор'ем рэкамендавана калгасам весці масавую нарыхтоўку сенажа. Кіраўнікі калектываў горада абавязаны мабілізаваць людзей і арганізаваць прыгатаванне сена, згодна з заданнямі. Усім трэба папрацаваць напружана і плённа.

Гэта пасяджэнне райвыканкама павінна стаць урокам для многіх.

## Абласная селектарная нарада

17 чэрвеня адбылася абласная селектарная нарада. З кіруючымі кадрамі вобласці, раёнаў разгледжаны актуальныя пытанні ў сельскай гаспадарцы, якія патрабуюць вырашэння. Гэта нарыхтоўка кармоў, догляд пасеваў, падрыхтоўка да жніва, вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі і некаторыя іншыя.

Старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын растлумачыў неабходнасць склікання нарады тым, што трэба выконваць задачы, пастаўленыя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь перад аграрным сектарам, "вертыкаллю" ўлады. Праверкі ж паказалі, што ў раёнах далёка не ўсё робіцца па развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці.

Як падкрэсліў намеснік старшыні аблвыканкама, старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Петр Кандратаў, які выступіў з інфармацыяй, у многіх калгасах упусцілі час, мала нарыхтавалі кармоў. Касьба траў зацягваецца, што ставіць пад пагрозу атрыманне другога ўкосу, забяспечанасць жывёлы.

Некаторыя гаспадаркі не закончылі хімпраполку яравых, падсеў траў. Слаба вядзецца залужэнне і перазалужэнне кармавых угоддзяў, у тым ліку ў Касцюковіцкім раёне.

Нядаўна прынята пастанова ўрада аб падрыхтоўцы да ўборкі збожжавых культур. Трэба актывізаваць рамонт камбайнаў, ачышчальна-сушыльных комплексаў. Тут важна знайсці фінансавыя сродкі, бо 80 працэнтаў расходаў аплачваюць самі калгасы.

Аналізуючы становішча ў жывёлагадоўчай галіне, П. А. Кандратаў сказаў, што большасць гаспадарак атрымліваюць па 7 кілаграмаў малака ад каровы ў суткі, хаця ўмовы спрыяльныя. Нізкія якасныя паказчыкі прадукцыі.

Варта палепшыць работу па ўзнаўленню статка. Асабліва старанна трэба гадаваць маладняк жывёлы. Неабходна аднаўляць пагалоўе кароў, што скарацілася.

Напалавіну менш стала свіней у калгасах. Без павелічэння іх колькасці цяжка вырашыць праблему забеспячэння патрэбы ў мясапрадуктах. Пералічаныя і іншыя хібы павінны быць выпраўлены. Магчымасці для нарыхтоўкі дастатковай колькасці кармоў ёсць. На палях вобласці віды на ўраджай збожжавых добрыя.

М. У. Дражын, які выступіў потым, гаварыў аб назіраннях у час паездак па раёнах вобласці, вывадах і сваім бачанні перспектывы развіцця аграпрамысловага комплекса. Па яго словах, больш за ўсё аказваюць адмоўны ўплыў лянота і безадказнасць кадраў. З-за дрэннай выканаўчай дысцыпліны губляецца 50 працэнтаў прадукцыі.

Вобласць горш за ўсіх у рэспубліцы працуе па кармах. Касьбу траў гаспадаркі пачалі са спазненнем на два тыдні. Да таго ж работы як след не арганізаваны.

Кіраўнікі рэдка наведваюць фермы. Цялятам даюць звыш грубы корм. Пашавае ўтрыманне жывёлы не наладжана. Сустрэчны падкос траў амаль усюды не вядзецца.

*(Працяг на 3 стар.)*

## ЁСЦЬ ПРАСТОІ ТЭХНІКІ

*(З РАЁННАГА ШТАБА)*

У панядзелак, 19 чэрвеня, адбылося пасяджэнне раённага штаба па правядзенню нарыхтоўкі кармоў. Разглядалася сітуацыя, якая склалася да гэтага часу, прымаліся аператыўныя рашэнні. Вёў пасяджэнне старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў.

Заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў калгасаў "Кранштат" Аляксандра Нікалаенкі, "Парыжская камуна" – Аляксандра Міхеенкі, "Дуброва" – Уладзіміра Казлова. У гэтых гаспадарках не ўся кормаўборачная тэхніка прымянялася ў мінулыя суботу і нядзелю. Былі выяўлены і іншыя недахопы. Старшыні названых калгасаў папярэджаны. Патрабавана, каб яны забяспечылі належную арганізацыю работ.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык, першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў, намеснікі старшыні райвыканкама Валянціна Кавунова, Васіль Мар'еў, Віктар Сугака, Мікалай Чэпікаў далажылі аб ходзе работ па нарыхтоўцы сена і сенажу ў замацаваных калгасах, узнялі шэраг пытанняў, што неабходна вырашаць у раёне.

На пасяджэнні былі выказаны крытычныя заўвагі ў адрас некаторых работнікаў райвыканкама, райсельгасхарчу, якія прызначаны адказнымі і кантралююць працу механізаваных атрадаў па закладцы сенажу.

Як адзначалася, складанае становішча з нарыхтоўкай кармоў у калгасе "Забычанне". Тут дагэтуль няспраўны і прастойвае здрабняльнік сянажнай масы. Праўленне калгаса, і ў першую чаргу яго старшыня Рыгор Чэпікаў, своечасова не арганізавалі рамонт самаходнага комплексу. Кіраўнік гаспадаркі заслугоўвае вызвалення ад займаемай пасады, паколькі нізкая забяспечанасць жывёлы кармамі стала хранічнай і вытворчасць прадукцыі падае, фінансавы стан калгаса вельмі дрэнны. Канчатковае рашэнне будзе прынята пасля праверкі, якая праводзіцца.

Шмат бяздзейнічае кормаўборачных машын у іншых гаспадарках. Інжынернай службе райсельгасхарчу, кіраўнікам тэхналагічных груп, калгасаў прапанавана аператыўна арганізаваць рамонт, дабіцца бесперабойнай работы тэхнікі, асабліва здрабняльнай. Усе 40 такіх комплексаў павінны працаваць, чаго пакуль не дабіліся.

Вырашана навесці парадак ва ўліку ўбраных плошчаў траў, зрабіць дакладную справаздачу аб гэтым і нарыхтаваных кармах. Справа ў тым, што фактычна менш засталося касіць, чым значыцца ў зводках.

На аператыўнай планёрцы, якая прайшла затым, заслуханы паведамленні старшынь Забычанскага і Бароньскаўскага сельскіх Саветаў Вольгі Касіцынай і Анатоля Баранава аб правядзенні закупу малака ў насельніцтва. Гэта работа як след не вядзецца. Застаецца шмат нявырашаных пытанняў. Старшыням сельвыканкамаў дадзены тэрмін для ўхілення недахопаў.

Галоўны ветурач рёна Аляксандр Судзілоўскі далажыў аб тых захадах, якія робяцца ветслужбай раёна па падрыхтоўцы ферм калгасаў у санітарным плане.

## УВАГА: КАЛАРАДСКІ ЖУК

*Напэўна, уладальнікі прысядзібных участкаў заўважылі, што сёлета, здаецца, як ніколі, шмат каларадскіх жукоў.*

*Многія імкнуцца змагацца з каларадскімі жукамі толькі шляхам збірання, лічаць, што на дарослае насякомае не ўздзейнічаюць хімічныя прэпараты. Гэта памылковая версія. Для дасягнення мэты ўсе спосабы добрыя, нават народны, калі ў слоікі раскладваюць парэзаную бульбу і расстаўляюць іх на ўчастку. Вам застанецца сістэматычна правяраць лавушкі і знішчаць "здабычу".*

*Для хімічнай апрацоўкі бульбы ад каларадскіх жукоў лепш выкарыстоўваць найбольш эфектыўныя прэпараты "Каратэ", "Фастак" і іншыя. Тут варта не марудзіць. Пажадана апрацаваць бульбу двойчы.*

***Ігар ГУЛАКОЎ,***
***намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.***

### ЗВЕСТКІ

***аб нарыхтоўцы кармоў у гаспадарках раёна па стану на 19 чэрвеня г.г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак; другая – скошана траў першага ўкосу (у % да плана); трэцяя – нарыхтавана сена (у % да плана)*

| | | |
|---|---|---|
| "Пар. камуна" | 82 | 35 |
| "Расія" | 66 | 13 |
| імя Калініна | 64 | 18 |
| "Новае жыццё" | 63 | 10 |
| "Радзіма" | 50 | 24 |
| "Лен. шлях" | 50 | 16 |
| "Новы быт" | 44 | 10 |
| "Дуброва" | 43 | 32 |
| "Прагрэс" | 43 | 20 |
| "Забычанне" | 40 | 16 |
| імя К. Маркса | 36 | 8 |
| "Праўда" | 26 | 9 |
| "Кранштат" | 23 | 12 |
| "Бароньі" | 15 | 7 |
| "Смолькі" | 12 | 8 |
| **ПА РАЁНУ:** | **42** | **16** |

ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ГРУПЫ Ў КАЛЕКТЫВАХ

# ДВУХБАКОВАЯ СУВЯЗЬ

У гэты дзень да рабочых і служачых камбіната бытавога абслугоўвання прыйшлі члены інфармацыйных груп аблвыканкама і райвыканкама. Начальнік абласнога ўпраўлення юстыцыі Аляксандр Маймусаў расказаў прысутным аб тым, чым жыве зараз Рэспубліка Беларусь і Магілёўшчына. Прывёў канкрэтныя даныя па заработнай плаце. Па яе росце наша вобласць займае трэцяе месца ў краіне. Давёў да ведама слухачоў і аб тым, у якім эканамічным становішчы знаходзіцца прамысловасць і сельская гаспадарка Беларусі.

Затым слова было дадзена дырэктару камбіната бытавога абслугоўвання Галіне Парфёнавай. Яна гаварыла аб тым, што камбінат у вобласці лідзіруе сярод аднатыпных прадпрыемстваў па аказанню платных паслуг насельніцтву. Здабыткі маглі быць і больш важкімі, калі б умацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу. Памяшканне, дзе размяшчаюцца асноўныя службы, патрабуе капітальнага рамонту. Неабходна мяняць машыны, якія ўжо зношаны на 100 працэнтаў. Да камбіната не падведзена вада. З-за адсутнасці грашовых сродкаў для гэтых мэт нельга набыць 100 метраў труб.

Дрэнна абсталяваны і сельскія комплексна-прыёмныя пункты. З раённага бюджэту выдзяляюцца сродкі для прывядзення ў парадак будынкаў, але іх недастаткова. Добра было б, каб аказалі дапамогу з вобласці. Галоўнае тут у тым, каб спачатку ўмацаваць базу, мацней стаць на ногі і тады працоўны калектыў за кошт сваёй ініцыятывы зможа зарабляць жывыя грошы.

Начальнік абласнога ўпраўлення юстыцыі Аляксандр Маймусаў паабяцаў, што ўсе просьбы будуць дакладзены кіраўніцтву вобласці.

Рабочыя і служачыя свае прэтэнзіі выказалі ў адрас службы "Водаканал". Яны скардзіліся, што ў асобныя шматкватэрныя жылыя дамы з перабоямі паступае пітная вада. Адказы давалі намеснік начальніка абласнога ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Уладзімір Куляшоў, намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Чэпікаў. Яны паведамілі прысутным, што вывучаецца становішча ў гэтым напрамку ва ўсім горадзе. Аднак, як і многія іншыя службы, камунальнікі адчуваюць востры недахоп матэрыяльных рэсурсаў. І тут спадзяванні ўскладаюцца на тое, што ўрад Рэспублікі Беларусь прыдзе на выручку. Толькі і самім спажыўцам вады варта быць эканомнымі, ставіць лічыльнікі.

Сустрэча ў камбінаце бытавога абслугоўвання, як і на іншых прадпрыемствах, гэта двухбаковая сувязь паміж выканаўчай уладай і працоўнымі калектывамі. І яна павінна спрацоўваць на стварэнне лепшых умоў на вытворчасці і ў быту.

**Генадзь СОЛАЎ.**

Згодна з зацверджаным графікам, у раёне адбыўся Адзіны дзень інфармавання насельніцтва. Тэма яго – "Свабодная і незалежная" ( да Дня Незалежнасці рэспублікі). Гэта мерапрыемства мела на мэце азнаёміць жыхароў Касцюкоўшчыны з дзейнасцю мясцовых органаў улады, сацыяльна-эканамічным развіццём раёна.

Інфармацыйна-прававыя групы, якія ўзначальвалі намеснікі старшыні райвыканкама і прадстаўнікі раённага Савета дэпутатаў, пабывалі ў 14 працоўных калектывах раёна.

# Сустрэчы з насельніцтвам

Таксама ў раёне працавала інфармацыйная група аблвыканкама, у складзе якой былі начальнік упраўлення юстыцыі аблвыканкама А. Маймусаў і намеснік начальніка ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі В. Куляшоў. Прадстаўнікі аблвыканкама наведалі працоўныя калектывы РВА ЖКГ, школы для дзяцей-сірот і КБА.

Школу для дзяцей-сірот наведалі А. Маймусаў і В. Шведаў. На сустрэчы была закранута праблема забеспячэння школы падручнікамі, адпачынку і аздараўлення дзяцей.

На сустрэчы ў РВА ЖКГ прысутнічаў намеснік начальніка ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі В. Куляшоў і намеснік старшыні райвыканкама па надзвычайных сітуацыях і жыллёва-камунальных пытаннях М. Чэпікаў.

Усе разгледжаныя пытанні ў час сустрэч з насельніцтвам былі ўзяты на кантроль і накіраваны на рэагаванне пэўным службам.

У гэты ж дзень у райвыканкаме быў арганізаваны прыём насельніцтва па асабістых пытаннях, які праводзіў начальнік упраўлення юстыцыі аблвыканкама А. Маймусаў. Было прынята 10 чалавек, якія атрымалі кампетэнтныя адказы на шэраг цікавіўшых іх пытанняў.

**Ірына ПЕТРУСЕВІЧ,**
**карэспандэнт райгазеты.**

## ПАЧАТАК І ЗАКАНЧЭННЕ ДАРОГІ ВАЙНЫ

НЕЗАБЫЎНАЕ

# РАДКІ З ДЗЁННІКА

***(З успамінаў М. М. Бяляўцава, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны)***



Кастрычнік 1940 года. Я працаваў на пасадзе бухгалтара Панькаўскага лясніцтва. Аднойчы вечарам я атрымаў маленькую паперку. Гэта было паведамленне аб тэрміновым прызыве ў Чырвоную Армію. Хацеў было ў прысутнасці Веры Ч. схаваць сваё хваляванне, ведаючы, што ў жыцці адбываецца вялікі пералом, але канчаткова зрабіць гэта не ўдавалася.

Зацішша... Вараноўка... Утульны куток, дзе я нарадзіўся і вырас. Вёскі стаяць на нізінным месцы, вакол ахутаны балоцвінамі і – ніводнай рэчкі. Вясной і восенню Вараноўка багатая на гразь. Летам паўсюдна неаглядны дыван кветак.

З такой часцінкай прыроды Прыбяседскага краю мне давялося развітацца з 18 на 19 кастрычніка. Разам з Міхаілам Саўчанкам і Міхаілам Даўгалевым справілі развітальную вячэру. Сабраліся родныя, блізкія. Стрэлкі старых насценных "ходзікаў" набліжаліся да 7 гадзін раніцы. Замілавальная сцэна развітання з роднымі. Цяжкія хвіліны. Сціскала душу. Дарэмна я імкнуўся перасіліць хваляванне гродзенскай махоркай, што і з'явілася вынікам прынятага назаўсёды рашэння – не ўжываць тытунь.

З першых у сям'і пачаў развітвацца з маці, Ганнай Навумаўнай, якая ніяк не магла ад мяне адарвацца, калі я ўжо накіроўваўся ў бок Вялікага Бору. Выправы былі падобныя на неарганізаванае шэсце.

У цвёрдым вагоне з маленькімі акенцамі, у якім былі перавезены тысячы кароў, коней, мы ехалі весела. На ўвесь гурт прызыўнікоў была адна балалайка. Ноччу спалі, каб хутчэй праходзіў час, днём з акенца тамбура любаваліся прыродай, што ўласціва Літве і Заходняй Беларусі. У вочы кідаюцца асобныя домікі, палоскі зямлі. Яны сведчылі аб нейкай адасобленасці, хоць сяляне жылі заможна.

Змярканне. Калі адчынілі дзверы вагона, на нас павеяла свежай восеньскай ранішняй прахалодай. Перад прызыўнікамі паўстаў высокі шэры цагляны дом. Чуем каманду: "Разабраць рэчы, стаць у строй". Было гэта 25 кастрычніка.

Пастроіўшы людзей у розным адзенні, нас павялі ў горад, дзе размяшчаўся гаўбічны артылерыйскі полк. Пабачыўшы салдат, якія ішлі строем з песнямі, нам спачатку гэта спадабалася. Але, калі агледзеліся, што знаходзімся за жалезнай агароджай, дзе толькі сустракаем вайскоўцаў у шэрых шынялях і голыя, як галубятнікі, чатырохпавярховыя казармы, жоўты лістапад, — усё гэта наводзіла на ўспаміны аб доме.

Каранцін трымалі нядоўга. Калі нас ужо пералічылі на "штукі", накіраваліся ў лазню. Як з канвеера, сталі выходзіць ужо з іншых дзвярэй чыстымі. І толькі па прозвішчу ў новых салдацкіх мундзірах адшуквалі адзін аднаго, хоць і знаходзіліся побач. На плошчы ваеннага гарадка нас размеркавалі па падраздзяленнях. Мяне, як мастака, забраў палітрук Кудрашоў у штабную батарэю, тапаграфічны ўзвод. Рабяты тут свае – Васіль Герасічкін, Іван Сеўрукоў з Валаськоўні. З імі і стаў уключацца ў вайсковае жыццё, вывучаць ваенную справу. Невыносным здаўся першы час службы. Заўсёды адчуваеш сябе галодным. У самы салодкі сон: "Пад'ём, канчай начаваць!" А яшчэ ніяк не паспяваеш за 5 хвілін адзецца і стаць у строй. Ніяк не ўнаровіш старшыне прыбраць ложак. Нездарма пасля ўсяго гэтага, забіўшыся ў цёмны куток з Мікалаем, паскардзімся на цяжкасць службы, і ўдвух румзаем, як бык. Пасля ўсё гэта здалося смешным. Ужо на сёмым месяцы службы ў мяне стала больш вольнага часу. Пісаў пісьмы і сам іх атрымліваў. У сталовай не толькі хапала ежы, а і заставалася ад нормы.

Твар акругліўся, словам, служба пайшла сваім парадкам. Толькі лічу: ужо 8 месяцаў праслужыў, значыць засталося 16 месяцаў.

Вясною яшчэ лягчэй стала салдату. Зойдзем, бывала, за горад ва ўтульнае месца і "камарыка" прыціснуць можна на сонейку, усведамляючы, што салдат спіць, а служба ідзе.

Ад мяжы з Германіяй мы знаходзіліся за 14 кіламетраў, над нашай тэрыторыяй некалькі разоў праляталі нямецкія самалёты, якія зрабілі "памылку" ў арыенціроўцы.

**ПРЫЙШОЎ ЧЭРВЕНЬ**. Частымі сталі вучэбныя, набліжаныя да сапраўдных, трывогі. Пайшлі размовы аб маючай адбыцца вайне. Афіцэры гаварылі: "Хутка паедзем піць мюнхенскае піва".

**18 ЧЭРВЕНЯ**: дзень прайшоў у напружанасці. Напісаў усім знаёмым і блізкім лісты, што пэўна прыдзецца паваяваць.

**СУБОТА**. Паглядзелі кінафільм "Вялікі вальс". З Яфрэменкам пайшлі ў парк, дзе іграў палкавы аркестр, разлічваючы на тое, што заўтра выхадны дзень, адпачнём, таму спяшацца няма куды. Вярнуліся ў казарму пасля 24 гадзін. Набрыдла спаць цэлы тыдзень у адзенні, вырашылі без дазволу камандзіраў адпачываць як звычайна. А там, на адлегласці 14 кіламетраў, сотні гармат сваімі жароламі былі ўжо накіраваны на нашу краіну. Зараней падрыхтаваны снарады, з разлікам весці шквальны агонь 4 гадзіны. А салдаты залівалі свае чэравы спіртам і шнапсам, каб канчаткова страціць тое, што ёсць у чалавека. Усё гэта надзейна хавалася і... ўсплыло 22 чэрвеня.

Цяжкі, надта цяжкі дзень. У гарадах людзі яшчэ ні аб чым не ведалі. Спяшаліся, як звычайна, на работу. Бурны рытм руху рознага віду транспарту працягваўся ў цэнтры Расіі да 12 гадзін, калі па радыё людзі пачулі голас Левітана: "Германія, парваўшы дагавор аб ненападзенні, вераломна... Вайна". А мы ўжо, страціўшы да гэтага часу баявых таварышаў, з баямі адыходзілі на ўсход. Першымі прынялі на сябе ўдар фашысцкай авіяцыі мы, узнятыя з ложкаў у 4 гадзіны. Адзін не ведае за што хапацца, другі замест гімнасцёркі цягне на сябе штаны, трэці зусім разгубіўся. На захадзе стаіць суцэльная канонада, вакол дым, паласуюць яго ракеты розных колераў, а зверху прашываюць кулямётнымі чэргамі нямецкія "мессеры", бомбамі разбураюць увесь народны набытак. Некалькі гадзін няспынна скаланалася паветра ад артпадрыхтоўкі праціўніка. Уся лінія граніцы была ахоплена агнем і дымам.

Ланцужком на ўсход ідуць раненыя. Афіцэры развітваюцца са сваімі сем'ямі. Пакуль была аб'яўлена "вайна", я ўжо страціў тапографаў Герасічкіна, Сеўрукова, Фірсянкова і іншых, а сам сувязным камандзіра ўзвода на "газіку" рухаўся ў баявых парадках нашых часцей на ўсход.

Пад станцыяй Казлова Руда "юнкерсы" бомбавым грузам літаральна прышылі мяне да зямлі. Так і хочацца ўвайсці ў зямлю, як у ваду. Тут і зразумеў, што на вайне трэба быць больш вытрыманым. Жывым застаўся, але цяпер не помню, як кінула ў яму ад разрыву бомбы, завалiла суччам, засыпала зямлёй. З таго часу я не ад усялякай бамбёжкі хаваўся ва ўкрыцце.

Авіяцыя праціўніка няспынна вісела ў паветры. Вораг, карыстаючыся мітуснёй, наперад войска закідваў парушыстаў. З кулямётаў страчылі па нас з лясоў, касцёлаў, дамоў. Былі і "смертнікі". Наносячы нам страты, гінулі і самі.

**25 ЧЭРВЕНЯ**: тры дні запар ішлі баі за г. Дзвінск (Латвія). Тут я згубіў сваю аўтамашыну ГАЗ, на якой засталіся асабістыя рэчы, фотаздымкі і арыгінал дзённіка, што вёў у арміі. У Дзвінску ўдзельнічаў у баі ў ролі падносчыка снарадаў. Быў збіты "мессер", які знайшоў сабе канец у размяшчэнні нашай батарэі (збілі карабінамі).

**РАКА ДАЎГАВА**. Назіраў дзеянні нашай авіяцыі. Адсюль, будучы ў паўакружэнні, "драпаў" у адзіночку, страціўшы сваіх баявых сяброў і апошнія чатыры гарматы з палка. Насыпалі зямлі ў ствалы і ўзарвалі выстраламі.

У лесе выпадкова сустрэў свайго камандзіра ўзвода, яшчэ трох салдат. Вырашылі ісці лесам і па жыце, якое ўжо каласілася і хавала нас з галавой. Ішлі глухаманню. Адзін з вясковых гаспадароў (за ўсю службу ў арміі) пачаставаў нас самагонам. Выпілі добра і, цяжка крочачы, рухаліся ў бок савецкай граніцы. Сэрца аблівалася крывёю, калі старыя і малыя са слязьмі нас праводзілі ў вёсках, молячы: "На каго вы нас пакідаеце?".

У раёне граніцы "мессер" збіў наш бамбардзіроўшчык і лётчык на парашуце прызямліўся непадалёк, далучыўся потым да нашай "кампаніі". Ледзь было не трапілі пад агонь свайго сустрэчнага танка, які вёў разведку, але выратавалі латышскія хлопцы, яны таксама, як і мы, рухаліся на ўсход.

У стальной касцы, з вінтоўкай, гранатамі РГД, якімі ў двух цяжкіх момантах рыхтаваўся ўзарваць сябе, няголены, я меў грозны выгляд салдата-франтавіка. А па праўдзе быў яшчэ маладзён. Нават у такі час не выходзілі з галавы ўспаміны аб каханай, аб маленькай вёсачцы на маёй Беседзі.

Жывы чалавек аб жывым і думае. Ёсць час – ён і радуецца, скажам, на схіле зімы падснежніку, што расцвіў каля акопа. Ёсць гора – ён плача, не саромячыся слёз, апускаючы ў магілу свайго сябра. Пакуль жывы чалавек – гэта цудоўна. Ён салдат, а салдат Айчыны вышэй за ўсё.

Пасля "драп-маршу" на сваёй старой граніцы мы далучыліся да нейкай артылерыйскай часці, якая рухалася на фронт у раён Дрысы.

Каля г. Нова-Ржэў сустрэчны, нечаканы бой. Праціўнік, хутка апамятаўшыся, адкрыў па нашых баявых парадках шквал агню.

З мястэчка нас выбілі. Я быў паранены асколкамі снарада ў правую руку і нагу. Разам з цэлым кузавам параненых нас накіравалі ў палявы шпіталь. Жанчыны па шляху выносілі напіцца малака, квасу, плакалі, бо толькі дзве гадзіны таму назад мы ехалі цераз іх вёску з песняй "паміраць дык з музыкай".

**22 ЛІПЕНЯ**: роўна месяц вайны, а некаторыя "стратэгі" разлічвалі, што "маланкавая вайна" працягнецца нядоўга. Памыліліся. Адзін рускі салдат змагаецца за пяцярых.

У эшалоне рухаліся вельмі павольна – чыгуначны транспарт перагружаны. Шпіталі перапоўнены. Днём пастаянныя налёты авіяцыі. Харчаваліся тым, што траплялася. Дапамагала насельніцтва.

Спыніліся ў Яраслаўлі. Тут я даведаўся аб поўнай акупацыі Беларусі.

**22 ЖНІЎНЯ**: Горкі. Запасны артполк, вучэбны дывізіён. Паслаў у даведачнае бюро г. Багуруслама аб лёсе сям'і, брата Пятра, сястры Марыі – безвынікова. Многа капалі зямлянак для жылля. Навіны з фронту не радавалі. Вораг набліжаўся да Масквы. У Горкім з'явіліся бежанцы – масквічы.

**21 ЛІСТАПАДА**: Паступіў загад зняцца з баявых пазіцый.

**6 СНЕЖНЯ**: "На шматкі рваць фронт праціўніка" – заклікалі словы Сталіна. Пад Масквой – першая ластаўка перамогі. Вораг па колькасці тэхнікі меў яшчэ перавагу, але адыграла сваю ролю артылерыя, за што і атрымалі пахвальныя словы правадыра. Артылерыя – бог вайны. Немец паказаў спіну, наш баец і насеў на яе.

**4 ЛЮТАГА 1943 ГОДА**. Загад камандзіра Прыволжскай ваеннай акругі аб прысваенні звання "малодшы лейтэнант": з юнкера ў афіцэры!

Далей: Саратаў, Рціщчава, Арзамас, Польшча, Прага... Добра ўжо ведаю, што 1945 год стане годам Перамогі. Вораг пачаў вайну, мы яе закончым. Змоўкнуць гарматы, спыняць рух танкі, а колькі яшчэ будзе слёз!..

**15 ЧЭРВЕНЯ**: Я пражыў два гады без цябе, родная Беларусь. Не толькі не атрымліваў пісьмаў, а нават не ўяўляю, ці ёсць хто жывы. За гэты час я пазнаў сваю сілу, сілу той зброі, якую даверыла Радзіма.

**26 ВЕРАСНЯ**: Войскі Чырвонай Арміі ўступілі ў межы Беларусі. Даведаўся, што вызвалены Сураж (дзе пражывае старэйшы брат), першы раённы цэнтр на Беларусі – Хоцімск.

**29 ВЕРАСНЯ**. Не толькі за ўсю вайну, а нават і жыццё, здараецца адзін радасны дзень, хваляванне якога і апісаць не здолееш. Радыё паведаміла аб вызваленні гарадоў Касцюковічы, Клімавічы (радзіма Сяргея). У той дзень паслаў у Сураж і Вараноўку некалькі пісьмаў.

І вось бязмежная радасць: за тры гады атрымаў першае пісьмо ад Вольгі. Піша, што плакалі, чытаючы радкі з фронту, але гэта былі слёзы радасці. Вялікі Бор спалены, але Вараноўка ўцалела. Бацька і маці жывыя. Брат Ягор быў у партызанах, а цяпер з сынам Сяргеем пайшлі ў дзеючую армію. Брата Сельвёрста забралі немцы, і аб ім нічога не чуваць, а Рыгор (Хамчанок) уцёк.

**Падрыхтаваў да друку**
**Віктар БОНДАРАЎ.**

ТВОРЧЕСТВО НАШИХ ЧИТАТЕЛЕЙ

## ИЮНЬ

*На зорьке в бор сосновый*
*Иду я неспеша...*
*День вижу будет клёвый*
*Поёт во всю душа!*

*Зашел в лес – земляника,*
*Куда ни посмотри.*
*Ой, как вкусна! Велика,*
*Лишь не ленись, бери.*

*Кругом всё было красно,*
*Лукошко я набрал.*
*За полчаса? Напрасно.*
*Мне скажите: "Соврал..."*

*За три часа быть может.*
*За полчаса? Нет. Сплюнь!*
*И женщина не сможет...*
*Мне помогал – июнь.*

***Василий КОТИКОВ.***
***пос. Тупичино.***

# АБЛАСНАЯ СЕЛЕКТАРНАЯ НАРАДА

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

За вялікую суму валюты набыты канцэнтраты. Аднак іх скармілі буйной рагатай жывёле, а трэба было аддаць свінням. Кароў варта ўдосталь карміць зялёнай травой, і малако будзе.

Дзяржава стварае аграрнаму сектару неабходныя ўмовы, накіроўвае сюды вялікія сродкі. Але гаспадарнікі не разумеюць, наколькі гэта няпроста зараз, і не цэняць. Трэба вытвараць прадукцыю вышэйшай якасці і нізкага сабекошту.

Губернатар прынцыпова ацаніў ролю старшынь райвыканкамаў, начальнікаў сельгасупраўленняў. Многія з іх працуюць старымі метадамі.

Старшыня аблвыканкама папярэдзіў кіраўнікоў усіх рангаў аб тым, што час утрыманства прайшоў. Больш не трэба выбіваць сродкі. Іх неабходна зарабляць самім вытворцам. За безадказнасць, нядбайнасць, неарганізаванасць кіруючыя кадры будуць строга пакараны ці зняты з займаемых пасад.

Міхаіл Дражын паведаміў, што рашэннем аблвыканкама аб'яўлена ўсеагульная мабілізацыя на нарыхтоўку кармоў. Калгасы і саўгасы абавязаны завяршыць касьбу шматгадовых траў на культурных сенажацях да 1 ліпеня, на прыродных лугах – да 15 чысла гэтага месяца. Загадана ўключыць усю тэхніку, прыцягнуць не толькі сельскіх працаўнікоў, а і гараджан. Кожны чалавек павінен здаць 300 кілаграм сена.

Трэба забяспечыць кармамі падсобныя гаспадаркі грамадзян. Падворкі даюць трэцюю частку агульнай колькасці вытваранай жывёлагадоўчай прадукцыі.

Вызначаны тэрмін падрыхтоўкі збожжавых камбайнаў, комплексаў і зернетакоў. Іх належыць давесці да ладу не пазней 1 ліпеня. Такая ж каманда дадзена хлебапрыёмным прадпрыемствам, аўтагаспадаркам.

У жывёлагадоўлі галоўнае – накарміць статкі. Тады і прыбаўка прадукцыі будзе.

Вынікі практычнай работы будуць перыядычна падводзіцца ў аблвыканкаме.

Былі пастаўлены задачы перад работнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Патрабавана, каб яны рэгулярна адлюстроўвалі ход накаплення кармоў, падрыхтоўкі да жніва, арганізацыю пашавага ўтрымання жывёлы, ускрывалі дапушчаныя на месцах недахопы, крытыкавалі нядбайных.

На нарадзе заслуханы справаздачы амаль усіх старшынь райвыканкамаў вобласці. Дакладваў аб прынятых мерах і старшыня Касцюковіцкага раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

Затым М. Р. Барысаў правёў аператыўную нараду з прысутнічаючымі ў зале пасяджэнняў кіраўнікамі калгасаў, прадпрыемстваў, сельвыканкамаў, арганізацый, служб, работнікамі апарату. Дэталёва прааналізавана арганізацыя корманарыхтоўкі ў цэлым па раёну і ў разрэзе па гаспадарках. Адзначана актыўная работа па закладцы сенажу ў калгасах "Парыжская камуна" і "Дуброва". Падвергнуты крытыцы калгасы "Прагрэс", "Ленінскі шлях", "Кранштат" і некаторыя іншыя за нізкія тэмпы нарыхтоўкі кармоў. Заслуханы тлумачэнні іх кіраўнікоў Фёдара Жукава, Міхаіла Таўпекі, Аляксандра Нікалаенкі. Яны папярэджаны.

Выказаны шэраг заўваг у адрас дырэктара ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга" Міхаіла Патапенкі. Былі дапушчаны збоі ў рабоце механізаванага кормаўборачнага атрада. Кіраўніку таварыства дадзены тэрмін для наладжвання прадукцыйнага выкарыстання тэхнікі.

За кожным мехатрадам, якія працуюць у калгасах, замацаваны адказныя асобы. Члены раённага выканаўчага камітэта ажыццяўляюць кантроль за ходам корманарыхтоўкі. Працуе раённы штаб.

Дадзена распараджэнне старшыням сельвыканкамаў, каб палепшылі закуп малака ў насельніцтва.

РЭПАРТАЖ

# Механізаваныя атрады нарыхтоўваюць сянаж



Не сакрэт, што напачатку "зялёнага жніва" ў калгасах раёна амаль не закладваўся сянаж. У адных не была гатова кормаўборачная тэхніка, у другіх яе не хапала, трэція аддалі перавагу нарыхтоўцы сена. Увогуле кармоў нарыхтоўвалася мала.

Каб выправіць становішча, упраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання пры падтрымцы райвыканкама арганізавала на базе калгаса "Расія" раённы семінар па вытворчасці сянажнага корму. Нічога новага тут не збіраліся паказаць, бо тэхналогія вядомая. Аднак ставілася задача пераканаць гаспадарнікаў у мэтазгоднасці аб'яднання тэхнікі, сіл некалькіх калгасаў, арганізацый, эфектыўнасці работы механізаваных кормаўборачных атрадаў. Між іншым, скептыкаў сярод кіраўнікоў гаспадарак хапала. Яны пад розным выглядам тармазілі кааперацыю. Успаміналі няўдалы мінулагодні вопыт.

Зазначым, што сёлета без такой формы арганізацыі выкарыстання



тэхнікі проста нельга абысціся. Папершае, ураджайнасць траў нізкая, і для таго, каб у кароткі час запоўніць масай сховішчы, патрабуецца шмат здрабняльнікаў, транспартных сродкаў. Па-другое, не ва ўсіх ёсць дастатковы набор машын усіх відаў. Кааперaванне дапамагае вырашаць гэтую праблему...

Але пяройдзем да храналогіі падзей, якія адбываліся ў той дзень. У кабінеце старшыні райвыканкама сабраліся кіраўнікі калгасаў, раённых служб, арганізацый, райсельгасхарчу, спецыялісты. Да прысутных звярнуўся Міхаіл Рыгоравіч Барысаў.

Размова зайшла аб тым, як некаторыя "змагаюцца" за вялікае малако. І сёння, у самы спрыяльны сезон, калгасы імя Карла Маркса, "Новае жыццё", "Забычанне" недабіраюць ад каровы па 100-300 грамаў яго ў дзень, што ў суме складае значныя лічбы.

Выказана трывога ў сувязі з нізкімі тэмпамі нарыхтоўкі кармоў на будучую зімоўку. Гэта адзначыў і аблвыканкам. Было загадана ўсім рабіць сянаж, як высокаспажыўны корм. Патрабавана, каб на ўсіх участках тэхналагічнага працэсу працавалі адказныя асобы і кантралявалі якасць. Была пастаўлена задача да 1 ліпеня 2000 года завяршыць першы ўкос траў.

Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік сельгасупраўлення Віталь Грышанаў заўважыў, што калгасы дарэмна страцілі цэлы тыдзень дарагога часу. Толькі чатыры гаспадаркі актыўна нарыхтоўвалі кармы. І нават яны маюць нізкую забяспечанасць умоўнымі адзінкамі, бо паралельна з сенам не вядуць закладку сенажу.

Начальнік райсельгасхарчу паабяцаў тым, хто будзе працаваць атрадамі, выдзеліць паліва ў лік будучых грашовых авансаў, аказаць усялякую дапамогу. Звярталася ўвага на гібкае прымяненне тэхналогій нарыхтоўкі кармоў. Прапанавана ўсюды арганізаваць належны догляд пасеваў кукурузы і караняплодаў, што аказаліся ў палоне пырніку і іншых відаў пустазелля.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык нагадаў, што сёлета трэба закупіць у насельніцтва каля 2 тысяч тон малака. Нарыхтавана ж яго на 290 цэнтнераў менш, чым за аналагічны перыяд летась.

Выяўляецца, што не хапае бідонаў, калёс, вупражу. Нямала кароў на падворках засталіся ялавымі. Сельвыканкамы, калгасы, райплемстанцыя павінны ўнікнуць і зняць наспеўшыя пытанні...

Ужо ў аўтобусе, па дарозе ў калгас, намеснік начальніка райсельгасхарчу па механізацыі Леанід Ус даваў рэкамендацыі па правядзенню ўзаемаразлікаў гаспадарак, якія ўбіраюць травы тэхнікай, аб'яднанай з гэтай мэтай. У раёне налічваецца 40 здрабняльнікаў. Гэтай тэхнікай можна весці закладку сянажнай масы штодзённа ў некалькіх траншэях. З агульнай плошчы траў 25 працэнтаў павінна быць выкарыстана для прыгатавання сенажу. Створана 6 кормаздабываючых атрадаў, з якіх адзін у ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга". У кожным з іх па 8 уборачных агрэгатаў, ёсць іншыя віды машын.

І вось нарэшце паказаўся знаёмы пасёлак Шарэйкі, а затым і цэнтральная ферма калгаса "Расія". Тут усе ўбачылі падрыхтаваныя траншэі. Каля адной з іх было ажыўлена. Сюды пад'язджалі трактары з прычэпамі, поўнымі духмяных здробненых траў, і разгружаліся, бралі кірунак у зваротны шлях.

Толькі нязменна заставаўся на месцы колавы гігант – вядомы "Кіравец" з пагрузчыкам. Дакладней, ён рухаўся наперад-назад, разраўноўваючы і трамбуючы масу. За няпоўны дзень у калгасе паспелі закласці значную колькасць сенажу.

Далейшы шлях удзельнікаў семінару ляжаў у напрамку вёскі Калодзезькі, на аддаленую сенажаць. Тут іх сустрэлі кіраўнік механізаванага атрада – дырэктар райаграпрамтэхэнерга Міхаіл Патапенка, работнікі райсельгасхарчу, спецыялісты, кіраўнікі гаспадаркі. Яны далі гасцям вычарпальныя тлумачэнні.

На скошванні траў у той дзень былі заняты тры касілкі, у тым ліку славуты камбінаваны агрэгат "КЗР", тры здрабняльнікі – КСК-100 з падборшчыкамі, аўтамашыны і трактары з прычэпамі. Кормаўборачны канвеер быў нядаўна ўключаны і дзейнічаў. Выкарыстоўвалася на розных тэхналагічных працэсах тэхніка калгасаў "Расія" і "Кранштат", райаграпрамтэхэнерга і ПМК-90.

Як было заўважана, у першы дзень не ўсё ўдалося адладзіць, адрэгуляваць. Потым нават некаторыя кадры панеслі заслужаныя пакаранні. Аднак перавага работы механізаваным атрадам была пераканаўча даказана. Калі б яшчэ травастой удаўся, без сумнення за некалькі дзён калгас стварыў бы дастатковы запас грубых кармоў. Удзельнікі семінару па дарозе аглядалі палі кукурузы. Пасевы былі, на жаль, у запушчаным стане, у чым віна агранамічнай службы калгаса на чале з Васілём Малашанкам. Таму не магла не зайсці размова аб правядзенні догляду яе і караняплодаў. Аб гэтым гаварылі намеснік начальніка райсельгасхарчу па раслінаводству Ігар Гулакоў і начальнік станцыі хімічнай аховы раслін Анатоль Даўгалёў.

Наступным аб'ектам семінара быў калгас "Новае жыццё". Ён вёў закладку сенажу толькі сваімі сіламі і агульны вынік аказаўся значна горшым, чым мог быць пры аб'яднанні тэхнікі двух гаспадарак. Гэта павучальна.

У рабоце семінара ўдзельнічалі М. Р. Барысаў і В. Л. Грышанаў. Яны далі гаспадарчым кадрам неабходныя ўказанні.

**На здымках: у час правядзення раённага семінара па нарыхтоўцы кармоў у калгасе "Расія"; падборку і здрабненне сянажнай масы вядзе тэхніка ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга".**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

ВАЖНО ЗНАТЬ

# НАРКОМАНИЯ – ШАГ В БЕЗДНУ

Толковый словарь Ожегова (издание 1990 года) дает следующее определение этому странному и беспощадному слову: "наркомания – это болезнь, характеризующаяся непреодолимым влечением к наркотикам, приводящая к тяжелым нарушениям функций организма". Добавим: зачастую и к смерти.

За данным определением стоят миллионы судеб: тех, кому наркотики сократили жизнь, превратив ее в ад и кошмар. Зависимость от наркотиков стала серьезной проблемой во многих странах мира. Печальной известностью торговцев и потребителей наркотиков пользуются страны Латинской Америки, Средней Азии, других регионов мира. Например, колумбийские наркобароны являются очень богатыми людьми: владеют недвижимостью во многих странах мира, акциями солидных компаний, даже занимаются благотворительной деятельностью. Но на самом деле это обыкновенные убийцы, на совести которых миллионы загубленных жизней.

За последние 15 лет в Беларуси отмечается рост числа зарегистрированных больных наркоманией. На данный момент их больше 5 тысяч. Но специалисты считают, что реальное количество лиц, употребляющих наркотики, в 15-20 раз больше (более 100 тысяч человек). По прогнозам, увеличение числа наркоманов будет происходить и дальше, поскольку такая же динамика наблюдается во всех соседних странах: Польше, России, Литве, Украине. Не обминула эта страшная беда и наш район. На учете в районной поликлинике состоит 1 человек, употребляющий наркотики. К счастью, он обратился за помощью сам и сейчас проходит курс лечения.

80 процентов наркоманов – люди, не достигшие 30-летнего возраста.

70 процентов наркоманов нигде не работает.

Более 60 процентов наркоманов – это холостые или разведенные люди.

50 процентов больных наркоманией имеют судимости.

Лишь 20-30 процентов наркоманов от общего числа прошедших лечение, могут считаться полностью выздоровевшими.

Возраст 15-18 лет – наиболее опасный период приобщения к наркотикам. Деградация личности у наркоманов в 15-20 раз быстрее, чем при алкоголизме.

Привыкание к наркотикам как правило возникает после третьего укола (человек уже не в состоянии владеть собой и контролировать свои поступки).

Специалисты Республиканского центра профилактики СПИД считают, что в нашей стране у наркоманов реально есть два пути:

1) к передозировке;

2) к заболеванию СПИДом (подавляющее большинство ВИЧ – инфицированных в нашей республике – шприцевые наркоманы). Результат одинаков – смерть.

Самое коварное в наркомании – это то, что в самом начале употребления наркотиков человек не чувствует никакой опасности, не обращается за помощью, а ведь именно в это время его еще можно спасти. Когда же болезнь становится совсем очевидной, когда человек не в силах преодолевать ломки, когда принятие наркотика уже не приносит удовольствия, а только кратковременное облегчение – избавиться от зависимости почти невозможно.

Согласно исследованиям, существует определенный процент так называемых генетических наркоманов, тех, кто употребив наркотики хотя бы раз, уже отказаться от их не смогут никогда.

В процессе потребления многих наркотиков у человека меняется химическая структура мозга, потребность в наркотиках становится жизненно необходимой. В итоге возможность избавиться от желания получить новую дозу наркотиков практически равна нулю.

Наркоманию вполне справедливо называют болезнью молодых. А как определить, употребляет ребенок наркотики или нет?

Во-первых, по резким изменениям в поведении детей: стремление избегать родителей, непонятные звонки по телефону, потеря интересов к старым друзьям и увлечениям, в том числе учебе и работе. Агрессивное, возбужденное поведение (или наоборот безграничная доброта) без всяких оснований.

Во-вторых, необычное выражение глаз ребенка: чрезмерно суженые или наоборот расширенные зрачки, белки, налитые кровью.

В-третьих неряшливость в одежде, появление среди вещей бутылочек, пробирочек, повышенный интерес к домашней аптечке, следы уколов или многочисленных неглубоких порезов кожи на руках и ногах вдоль вен.

Действенную помощь попавшим в беду окажут в наркологическом кабинете районной поликлиники специалист-нарколог или в Могилевском областном наркологическом диспансере (ул. Сурганова, 41, тел.: 26-40-76).

Но, как говорится, лучшее лечение болезни – это ее профилактика. Выявление больных наркоманией затруднительно в силу их большой конспирации. Чтобы не допустить роста армии наркоманов, главное проводить разъяснительную профилактико-воспитательную работу силами педагогических коллективов района, врачей, общественных организаций, местных органов власти в трудовых коллективах, школах, по месту жительства.

Одним из важнейших воспитательных средств должно быть развитие правовой культуры человека, знание не обстрактной теории права, а четкого уяснения того, как общество будет реагировать на то или иное правонарушение.

Целесообразно привлекать к информационно-разъяснительной работе о вреде наркотических веществ сотрудников правоохранительных органов, прокуратуры, судов, общественности. Вопросы здорового образа жизни должны быть включены в годовые планы работы заместителей руководителей по информированию, должна проводиться определенная работа по месту жительства, в школах и внешкольных учреждениях. Только совместными усилиями мы сможем справиться с этой страшной бедой, грозящей всему человечеству.

**Отдел информации райисполкома.**

**АДПАЧЫНАК ШКОЛЬНІКАЎ**

# Лета, ах, лета!

Кожны год на летні перыяд распрацоўваюцца мерапрыемствы па занятасці "цяжкіх" падлеткаў аддзелам адукацыі, Цэнтрам дзіцячай творчасці, раённай станцыяй дзіцячага турызму і краязнаўства, ЦБС, цэнтрам занятасці.

Аб летняй занятасці дзяцей і падлеткаў, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх РАУС, ішла гаворка на чарговым пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама. Што зроблена ў гэтым напрамку аддзелам адукацыі, праінфармавала інспектар РАА Тамара Ціханава. Па занятасці дзяцей і падлеткаў у летні перыяд тут праведзена пэўная работа, адзначыла выступаючая. Арганізавана работа лагераў з дзённым знаходжаннем у іх рабят на базе гарадскіх школ, Мурынборскай, Муравільскай, Вялікакрапівенскай, Бялынкавіцкай, Новасаматэвіцкай, Бароньказўскай сярэдніх школ, пры Цэнтры дзіцячай творчасці, станцыі дзіцячага турызму і краязнаўства, у якіх адпачываюць 675 навучэнцаў.

З мэтай арганізацыі работы па добраўпарадкаванню школьных тэрыторый, работы на прышкольных участках, па рамонту мэблі створаны брыгады. Пры Новасаматэвіцкай СШ арганізавана работа лагера працы і адпачынку.

Для работы ў сельскай гаспадарцы па апрацоўцы караняплодаў ва ўсіх школах, за выключэннем школ, якія размешчаны ў зоне радыяцыйнага забруджвання, арганізавана работа вытворчых брыгад.

На базе сярэдніх школ № 3, № 4, Бялынкавіцкай, Бароньказўскай, Тупічынскай сярэдніх, Дзямідавіцкай базавай школах працуюць лясніцтвы.

На ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх стаяць 49 навучэнцаў з 13 сярэдніх школ і школы для дзяцей-сірот. Іх адпачынак спланаваны.

Пры Цэнтры дзіцячай творчасці працуе лагер профільных атрадаў: экалагічнай накіраванасці, спартыўна-тэхнічнай і актыў. Як сказала дырэктар ЦДТ Валянціна Смільская, у першую змену тут адпачываюць 90 навучэнцаў, 28 з іх – "цяжкія" падлеткі. Работа лагера спланавана па днях, калектыў добра ведае формы і метады работы.

Аб сваіх планах работы на летні перыяд расказалі дырэктар раённай станцыі дзіцячага турызму і краязнаўства Васіль Котаў і дырэктар ЦБС Вера Кузняцова. Пры СДТіК працуе лагер, у якім знаходзяцца 45 дзяцей, 3 з іх – "цяжкія". Работнікамі робіцца ўсё, каб рабяты маглі цікава бавіць свой час у лагеры. На другую змену таксама плануецца прыняць не менш рабят, у тым ліку і рабят, якія схільныя да парушэння правапарадку.

Праводзіцца пэўная работа з "цяжкімі" падлеткамі і бібліятэкамі горада, сяла. Яны прыцягваюцца да чытання, у гурткі.

Дырэктар цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Вера Кузняцова прадставіла таксама план работы аддзела культуры на час летніх канікулаў, у якім прадугледжаны цікавыя гульнявыя, конкурсна-забаўляльныя праграмы, балі, выставы і інш.

Цэнтрам занятасці насельніцтва будуць працаўладкаваны 10 чалавек з ліку студэнтаў.

Заслуханы паведамленні аб рабоце з падлеткамі і старшага інспектара інспекцыі па справах непаўналетніх РАУС Аляксандра Асташанкі, загадчыцы аддзела па справах моладзі райвыканкама Іны Мамчанка.

Камісіяй прынята адпаведная пастанова. Дарэчы, 14 падлеткаў з ліку "цяжкіх" засталіся не задзейнічанымі. Вырашана замацаваць іх за кожным членам камісіі па справах непаўналетніх.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**



*г. Касцюковічы. Вуліца Камсамольская.*

*Фотаэцюд Дзмітрыя ПЯЧКОЎСКАГА.*

# Чтобы не пострадать в грозу

Наверное о том, что в конце мая в нашем городе от удара молнии загорелся сарай И. И. Захарова, знают многие. Сгорело строение сарая, гараж, частично повреждена кровля дома, уничтожен мотоцикл "Днепр", в огне погиб поросёнок. Причиной пожара явилось прямое попадание грозового разряда.

Известно, что молния – это гигантский электрический разряд, возникающий из-за сильной электризации атмосферы во время грозы. Наблюдаемые чаще всего линейные молнии, движутся со скоростью, достигающей сотен тысяч километров в секунду, перенося электрические токи силой в сотни и тысячи ампер. Температура в электрическом разряде может превышать 25000 градусов С.

Наибольшее число несчастных случаев в грозу (90 процентов) происходит в сельской местности. Чаще всего молния поражает человека на открытых местах, несколько реже – в помещении и еще реже – в лесу под деревьями. Поэтому следует помнить об основных правилах поведения во время грозы.

Прежде всего, избегайте открытых мест! Если же вы все-таки оказались во время грозы вне помещения, то постарайтесь укрыться в небольших углублениях, у подножия высоких склонов, в лесу.

Крайне опасно находиться на возвышенном месте, возле металлических конструкций, прятаться под одиноко стоящими деревьями и навесами! Очень опасно работать на тракторе в открытом поле. Люди, находящиеся в автомобиле, лучше защищены от поражения молнией.

Для защиты зданий и других сооружений служат молниеотводы, представляющие собой тонкий заостренный металлический стержень, который устанавливается на самой высокой точке здания и надежно заземляется.

Чтобы защитить небольшие строения с металлической крышей, в том числе, жилые дома, надо хорошо заземлить крышу, ставни, водосточные трубы. Здания, имеющие центральное отопление и водопровод, практически защищены от ударов молний.

Удар молнии может привести к остановке сердца. Об этом свидетельствует следующие признаки: неподвижные, чаще всего расширенные зрачки не реагируют на свет, не прощупывается пульс и т.д. В этом случае немедленно начинайте одновременно делать закрытый массаж сердца и искусственное дыхание, срочно вызовите "скорую".

**Виталий ЛУКАШЕНКО,**
**инспектор инспекции государственного пожарного надзора г. Костюковичи.**

## ПОЗДРАВЛЯЕМ!

*Сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*

***ГОЛОВЧЕНКО***
***Валентину Петровну***

*Много было дорог*
*Трудных в жизни твоей.*
*Много было тревог,*
*Много было дождей.*
*Тревоги пройдут, как проходят года.*
*Мы желаем тебе быть здоровой всегда.*
*Пусть годы идут, а душа не стареет*
*Пусть внуки растут – голова не седеет,*
*Пусть сердце не знает печали, разлуки,*
*Пусть радость приносят и дети, и внуки.*

***Коллектив типографии.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*

***ГОЛОВЧЕНКО***
***Валентину Петровну***

*Вы не грустите о годах –*
*В любых годах свой вкус и сладость,*
*Лишь были бы у Вас всегда*
*Друзья, семья, здоровье, радость.*
*Пускай душа не знает холода,*
*Пусть будет сердце Ваше молодо,*
*Пускай печаль с Вами расстанется,*
*Пусть доброта Ваша останется!*

***Коллектив редакции газеты "Голас Касцюкоўшчыны".***

# З АСАБЛІВАЙ ЖОРСТКАСЦЮ

**КРЫМІНАЛ**

Гарэлка – найвялікшае зло чалавека. І ў гэтым упэўніваешся не раз. На глебе п'янства часцей за ўсё адбываюцца трагедыі, няшчасці. У п'яным угары людзі страчваюць усялякія пачуцці, становяцца агрэсіўнымі, здзекаюцца са сваіх родных. Нярэдкі выпадкі і забойстваў, калі бацька забівае сына ці наадварот, жонка – мужа і г.д.

Менавіта гэта зелле і прывяло да трагедыі ў сям'і Паўлючэнкаў з вёскі Вішанькі. Той восеньскі дзень кастрычніка мінулага года стаў ракавым для старэйшага з Паўлючэнкаў.

Здавалася б, усё ў Мікалая складвалася добра. Меў сям'ю, работу. Але штосьці не складвалася ў сям'і, пасваркія з жонкай і пайшоў часова жыць да бацькі. Як бачым, у цяжкія для нас хвіліны мы шукаем падтрымкі ў родных.

Бацька Мікалая – Уладзімір Фёдаравіч быў ужо на пенсіі, жыў адзін і любіў выпіць. Вось яны: сын і бацька, часценька бавілі дзянькі за чаркай. У той ракавы дзень яны, пасля бурна праведзенага вечара, на пахмелле распілі бутэльку самагона. Ну і як часта бывае, слова за словам, разгарэлася сварка, у ходзе якой бацька ўдарыў сына рукой у грудзі. Сын, вядома ж, не вытрымаў і даў "здачы". А калі бацька ўпаў на падлогу, ён яму, ляжачаму ў бездапаможным стане, нанёс не менш 12 удараў нагамі па галаве, грудной клеткі.

М. Паўлючэнка, пэўна ж, разумеў, што прычыняе бацьку асаблівыя пакуты. Не падазраваючы аб магчымым сумным канцы бойкі, спакойна лёг спаць. А калі праз 3-4 гадзіны прачнуўся, бацька ўсё так жа працягваў ляжаць на падлозе ў лужыне крыві. Тут дайшло да сына, што зрабіў штосьці нядобрае, што бацька мёртвы і, хутчэй баючыся адказнасці, злачынца збег з дому.

Знайшоў памершага У. Ф. Паўлючэнку ў той жа вечар сусед, які зайшоў у дом. Ён і паведаміў у міліцыю.

На месца злачынства выехала аператыўная група на чале з пракурорам раёна. Да позняга вечара праводзіўся агляд, пошукі злачынцы. На ноч у доме засталіся супрацоўнікі аддзялення крымінальнага вышуку – засада. У дзве гадзіны ночы Мікалай вярнуўся ў дом, будучы ўпэўнены, што работнікі міліцыі паехалі. Тут і быў затрыманы.

У зробленым М. Паўлючэнка чыстасардэчна раскаяўся, казаў, што забіваць бацьку не хацеў, быў моцна п'яны, таму не зусім разумеў, што робіць. Але ж на дапросе прызнаўся, што разумеў, наносячы ўдары, якую боль адчувае бацька.

Згодна з заключэннем судова-медыцынскай экспертызы прычынай смерці У. Ф. Паўлючэнкі з'явілася тупая траўма тулава, якая суправаджалася шматлікімі пераломамі рэбраў, разрывам печані і ўскладніўшаяся траўматычным шокам. Акрамя таго, мелі месца тупая траўма галавы, канечнасцей у выглядзе ўдараных ран у затылачнай і падбародачнай абласцях галавы, шматлікія раны, сінякі, крывападцёкі...

Дзеянні М. Паўлючэнкі следствам былі кваліфікаваны, як наўмыснае забойства з асаблівай жорсткасцю. Магілёўскі абласны суд, разгледзеўшы гэту справу, прыгаварыў яго да 15 гадоў пазбаўлення волі.

Не перашкаджала б многім задумацца перад тым, як кульнуць чарговую чарку, да чаго яна можа прывесці і ці варта дзеля гэтага губіць сваё жыццё і жыццё блізкіх. Вядома, бацьку ўжо не вернеш. А вось Мікалай страціў, мабыць, большае. Доўга не ўбачаць яго ні жонка, ні маленькая дачка. Мікалай у той дзень, пэўна, не думаў аб іх, а дарэмна.

**Наталля ЛОСЕВА,**
**памочнік пракурора.**



**Д. П. "Костюковичская ЦРА № 24"** переименовывается в ***Дочернее унитарное предприятие "Костюковичская центральная районная аптека № 24"***.

**Общество с ограниченной ответственностью "Гаспадар"** переименовывается в ***Общество с дополнительной ответственностью "Гаспадар"***.

## ВНИМАНИЮ БЕЗРАБОТНЫХ ГРАЖДАН

Костюковичский районный центр занятости населения доводит до сведения безработных граждан, что, начиная с 21 июня 2000 года, организуется работа по прополке корнеплодов в колхозе "Ленинский путь". Ежедневно от центра занятости населения будет отправляться автобус для доставки безработных в колхоз. За выполненную работу оплата производится на месте.

Месячная норма участия во временных общественных оплачиваемых работах на июнь месяц составляет пять дней. Не отработавшим указанный минимум выплата пособия производится не будет.

**Раённы выканаўчы камітэт глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці**
**КЛЮШНІКАВА**
**Уладзіміра Мітрафанавіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Калектыў дзіцячага сада-яслаў № 4 "Сонейка" выказвае глыбокае спачуванне КЛЮШНІКАВАЙ Валянціне Міхайлаўне з выпадку напаткаўшага яе цяжкага гора – смерці МУЖА.**

**Калектыў упраўлення інвестыцый і капітальнага будаўніцтва глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці**
**КЛЮШНІКАВА**
**Уладзіміра Мітрафанавіча**
**і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграрнамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы* **А. ШПАКАВА.**
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1666 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 20. 06. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 47*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.